АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

3 – 9 СНЕЖНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 40000 РУБЛЁЎ
№49
(241)

**НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ**

| | Субота, 4 снежня | | Нядзеля, 5 снежня | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | -3°C – -4°C | -1°C | 0°C – -3°C | 0°C |
| Удзень | -2°C – +2°C | +3°C | 0°C – -2°C | 0°C |



МАЛАДЗЕЧНА

## Маладзечанцы прадстаўляюць Беларусь

Вытворча–камерцыйная фірма "Сотер" узяла ўдзел у Міжнароднай асамблеі высокай моды, што прайшла ў Рызе.

"Сотер" – адзіны беларускі ўдзельнік–вытворца адзення, запрошаны на прызнаны конкурс. Прыехала маладзечанская фірма разам з беларускім дызайнерам адзення Сашам Варламавым.

Падрабязнасці – у наступным нумары.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## "Светлы шлях" атрымлівае падарункі

55 год таму выйшаў першы нумар раёнкі "Светлы шлях". У канцы мінулага тыдня журналісты, заснавальнікі, аўтары адзначалі гэтую падзею.

З улікам таго, што рэдакцыя нядаўна справіла наваселле – пераехала ў новае памяшканне, мясцовыя ўлады падарылі журналістам 5 дываноў, якія ўпрыгожылі кабінеты рэдакцыі. "Мэбліроўка" на гэтым не закончылася, абяцаюць і тэлевізар. Наогул, падарункаў на свяце было багата.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Першачкам выдалі "пашпарты"

На базе пачатковай школы №6 прайшоў рэспубліканскі семінар па праграме "Этнашкола". Навучальныя праграмы, нетрадыцыйныя методыкі для дзяцей распрацаваў навукова-даследчы калектыў пад кіраўніцтвам кандыдата мастацтвазнаўства, дацэнта Беларускага ўніверсітэта культуры **Ільі Сучкова.**

Эксперыментальных "этнашкол" у краіне 5. Апрабацыя адукацыйнай праграмы ў Вілейцы праходзіць другі год.

На семінары пачаткоўцы прайшлі пасвячэнне ў школьнікі. Ім выдалі вучнёўскія білеты – на цвёрдай "корачцы" каляровая фотакартка вучня ў нацыянальным касцюме.

*Аддзел інфармацыі.*

ІВЯНЕЦ

## Дапамога цяжарным

Больш за 40 цяжарных жанчын з мястэчка і блізкіх вёсак, якія сабраліся ў актавай зале пассавета, сталі ўдзельніцамі праграмы "Беларуская мадонна–XXI стагоддзе".

Стваральнікі праграмы – міжнародная грамадская арганізацыя "Надзея–экспрэс" – палічылі, што лепш аказаць дапамогу цяжарным, чым у далейшым выдаткоўваць вялікія грошы на лячэнне немаўлят. Валожыншчына выбраная як плацдарм для рэалізацыі праграмы. У Іванцы жанчыны бясплатна атрымалі вітаміны, падарункі. Іх пракансультавалі спецыялісты.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МІНСК

## На 50% выраслі тарыфы на некаторыя паслугі электрасувязі

1 снежня ў Беларусі на 50 працэнтаў выраслі тарыфы на некаторыя паслугі электрасувязі.

Штомесячная **абанентская плата** за карыстанне кватэрным тэлефонам, пераведзеным на пачасовую аплату, павялічылася са 128 да 192 тысяч рублёў, непераведзеным – з 206 да 309 тысяч рублёў. Для арганізацый тарыф вырас, адпаведна, з 221 да 332 і з 424 да 636 тысяч рублёў.

**Пахвілінная аплата** размоў павысілася з 580 да 870 рублёў для насельніцтва і з 950 да 1430 рублёў для арганізацый.

Штомесячная плата за радыётрансляцыйныя кропкі магутнасцю да 1 кілавата вырасла з 40 да 60 тысяч рублёў для грамадзян і з 63 да 95 тысяч рублёў для прадпрыемстваў і арганізацый.

*Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.*

АБ'ЯДНАННІ

# На «Спадарожніку» застанецца 600 чалавек

*МАЛАДЗЕЧНА. У баку ад працэсаў аб'яднання не засталіся і вытворцы. Радыёзавод "Спадарожнік" аб'ядноўвае свае цэхі. Зборачныя – у зборачную вытворчасць, механічныя – у механічную. На чале кожнай будзе стаяць свой кіраўнік.*




*Камусьці гэтыя дзверы і прахадная маладзечанскага радыёзавода «Спадарожнік» пасля 10 снежня стануць чужыя.*

Як вядома, ад перамены месцаў складаемых сума не мяняецца. Тым не менш, адна работніцкі завода на змяненні глядзяць з надзеяй на лепшую долю. Іншыя – з падазрэннем, чакаюць масавых скарачэнняў.

Да старшыні прафкома **Аляксандра Міхасёнка** ідуць людзі за тлумачэнні. Найчасцей пытаюцца, ці будуць плаціць ім кампенсацыі падчас скарачэння.

– Мы праводзілі пашыраны прафком, – гаворыць ён, – на заводзе доля інтэзраўцаў, спецыялістаў расце. Хаця скарачаюцца пасады і тых, і тых. Трэба штосьці рабіць.

У рэгіянальным цэнтры занятасці паведамілі, што цяпер на радыёзаводзе скарачаецца прыкладна 1–2 пасады за дзень. На заводзе нікто пакуль не можа прадбачыць, ці не ператворыцца такая мляваць у вал. Маркуецца, што на прадпрыемстве застанецца 600 чалавек. Такім чынам аб'ём вытворчасці падгоніцца пад колькасць работнікаў.

Калісьці колькасць работнікаў толькі ў адным зборачным цэху даходзіла да 900 чалавек. Сёння ў двух няма і 400. А ў кожным цэху свае кіраўніцтва. Ці не прасцей сапраўды аб'яднаць структуры?

Праз тыдзень пад аб'яднанне павінен быць распрацаваны новы штатны расклад. Тады і вызначыцца, хто застанецца, а каму пакахаць за дзверы.

– Можа, усе і застануцца на сваіх рабочых месцах, – гаворыць А. Міхасёнак, – дарэчы, з прафкомам загад аб'яднанні нікто не ўзгадняў. Адміністрацыя палічыла гэта сваёй справай.



*Інжынер Валянціна Дубнік упэўненая ў светлым будучым «Спадарожніка».*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Начальнік зборачнай вытворчасці **Віктар Каваяк**:

– Мусіць, больш скажа вам намеснік дырэктара па вытворчасці Іван Страх, ён вышэй рангам.

Намеснік дырэктара **Іван Страх**:

– Загад аб'яднаць цэхі існуе. Гэта ідзе рэарганізацыя вытворчасці – узбуйненне. Што тычыцца скарачэння рабочых месцаў, то на мэце такое не ставілася. І ў загадзе пра гэта не сказана.

Што ж, аб'яднанне цэхаў, прынамсі, можа даць нейкую эканомію цеплаэнергіі.

*Сяргей АНДРЭЕЎ.*

ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ ПЕРАПІСУ НАСЕЛЬНІЦТВА КРАІНЫ 1999 ГОДА

# У нашым рэгіёне – 424 тысячы жыхароў

### 1. Колькасць насельніцтва Рэспублікі Беларусь

| Вобласць | Колькасць насельніцтва тыс. чал. | | 1999 г. у % да 1999 г. |
|---|---|---|---|
| | 1989 г. | 1999 г. | |
| Брэсцкая | 1449,0 | 1484,6 | 102,5 |
| Віцебская | 1409,9 | 1375,8 | 97,6 |
| Гомельская | 1667,8 | 1544,2 | 92,6 |
| Гродзенская | 1163,6 | 1184,8 | 101,8 |
| г. Мінск[2] | 1607,1 | 1677,3 | 104,4 |
| Мінская | 1574,6 | 1557,7 | 98,9 |
| Магілёўская | 1279,8 | 1212,8 | 94,8 |
| **Усяго** | **10151,8** | **10037,2** | **98,9** |

### 2. Размеркаванне колькасці насельніцтва на гарадское і сельскае

| Год | Усё насельніцтва, тыс. чал. | У тым ліку | |
|---|---|---|---|
| | | гарадское | сельскае |
| 1959[1] | 8031,7 | 2447,1 | 5584,6 |
| 1970[1] | 899262 | 244761 | 558466 |
| 1979[1] | 953265 | 523463 | 429862 |
| 1989[1] | 10151,8 | 6641,4 | 3510,4 |
| **1999** | **10037,2** | **6955,9** | **3081,3** |

### 3. Размеркаванне колькасці насельніцтва на гарадское і сельскае па абласцях

| Вобласць | Колькасць насельніцтва ў 1999 г. тыс. чал. | | |
|---|---|---|---|
| | усяго | гарадское | сельскае |
| Брэсцкая | 1484,6 | 901,9 | 582,7 |
| Віцебская | 1375,8 | 922,5 | 453,3 |
| Гомельская | 1544,2 | 1053,4 | 490,8 |
| Гродзенская | 1184,8 | 740,7 | 444,1 |
| г. Мінск[2] | 1677,3 | 1677,3 | — |
| Мінская | 1557,7 | 807,4 | 750,3 |
| Магілёўская | 1212,8 | 852,7 | 360,1 |
| **Усяго** | **10037,2** | **6955,9** | **3081,3** |

### 4. Размеркаванне колькасці насельніцтва па полу

| Год | Усё насельніцтва | У тым ліку | | У % да ўсяго насельніцтва | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | муж. | жан. | муж. | жан. |
| 1959[1] | 8031,7 | 3570,1 | 4461,6 | 44,5 | 55,5 |
| 1970[1] | 8992,2 | 4129,1 | 4863,1 | 45,9 | 54,1 |
| 1979[1] | 9532,5 | 4421,2 | 5111,3 | 46,4 | 53,6 |
| 1989[1] | 10151,8 | 4749,3 | 5402,5 | 46,8 | 53,2 |
| **1999** | **10037,2** | **4721,1** | **5316,1** | **47,0** | **53,0** |

### 5. Колькасць насельніцтва абласных цэнтраў і нашага рэгіёна

| Горад, раён | Колькасць насельніцтва тыс. чал. | | 1999г. у % да 1989 г. |
|---|---|---|---|
| | 1989 г. | 1999 г. | |
| Мінск | 1583,1 | 1673,8 | 105,7 |
| Гомель | 497,5 | 475,2 | 95,5 |
| Магілёў | 356,9 | 256,2 | 99,8 |
| Віцебск | 347,4 | 340,5 | 98,0 |
| Гродна | 269,8 | 301,7 | 111,8 |
| Брэст | 256,0 | 286,3 | 111,8 |
| Маладзечна | 90,3 | 96,6 | 107,0 |
| Маладзечанскі раён[3] | 51,2 | 43,9 | 87,5 |
| Радашковічы | 4,7 | 5,7 | 121,3 |
| Смаргонь | 30,8 | 36,2 | [illegible] |
| Смаргонскі раён[3] | 28,5 | 25,3 | 88,8 |
| Вілейка | 28,8 | 30,0 | 104,2 |
| Вілейскі раён[3] | 41,2 | 34,5 | 83,8 |
| Валожын | 15,6 | 16,6 | 106,4 |
| Валожынскі раён[3] | 38,8 | 30,8 | 79,4 |
| Мядзел | 7,1 | 7,8 | 109,9 |
| Мядзельскі раён[3] | 32,4 | 30,0 | 92,6 |
| Ашмяны | 14,4 | 15,1 | 104,9 |
| Ашмянскі раён[3] | 23,8 | 22,2 | 93,3 |
| Астравец | 7,5 | 8,4 | 112,0 |
| Астравецкі раён[3] | 22,3 | 20,9 | 93,7 |

*[1] – дадзеныя за 1959 и 1970 г. г. прыведзеныя па перапісе насельніцтва на 15 студзеня, за 1979 г. – па перапісе на 17 студзеня, за 1989 г. – па перапісе на 12 студзеня, за 1999 г. – па перапісе на 16 лютага.*

*[2] – уключна з населенымі пунктамі, падпарадкаванымі гарадскому Савету.*

*[3] – Дадзеныя па раёнах не уключаюць колькасць гарадскога насельніцтва. Маладзечанскі раён – без Радашковічаў.*

*АПАНТАНЫЯ*

# Фатограф забаўляўся тым, што рэзаў сваё начальства



*Вячаслаў Тамашэвіч марыць.*
КАЛАЖ АЛЕНЫ ЯЎГРАШЫНАЙ.

*МАЛАДЗЕЧНА. Вячаслаў Тамашэвіч збіраецца на "Поле цудаў" у краіну Расію. Адправіў ліст у Маскву і спадзяецца атрымаць выклік на запіс перадачы.*

А чаму б і не? Не так ужо і шмат спецыялістаў па адгадванні крыжаванак.

Калі Вячаслаў яшчэ працаваў фатографам на заводзе "Спадарожнік", ён прыдумаў такую гульню: "расчляняў" бракаваныя фотакарткі. Супрацоўнікам прапаноўваў прыкласці галовы да тулаваў. Пры гэтым рабіліся стаўкі ад 10 капеек да рубля. Дакладнасць затым правяралася па фатаплёнцы. Бывала, і па натуры. Калі "натура" заходзіла забраць картку на пропуск.

Асабліва любілі мужыкі рэзаць і складваць начальства. А "часткі цела" жанчын абмяркоўваліся доўга і па некалькі разоў. З тых часоў Вячаслаў займеў вядомасць як вялікі арыгінал.

4 гады таму ён неяк купіў газету "Программа, анекдоты, кроссворды". Упершыню паспрабаваў адгадаць крыжаванку. Сілы хапіла на 2 ці 3 словы. Адразу разгадвальнік завёў сабе – тоўсты сшытак, куды у далейшым упісваў незнаёмыя словы крыжаванак і іх тлумачэнні. Сёння ў сшытку 8632 словы. Апошнім часам запісы робяцца ўсё радзей.

– Стаў больш працаваць з энцыклапедыямі, тлумачальнымі слоўнікамі, – гаворыць фатограф.

На крыжаванку ідзе, у сярэднім, 20-30 хвілін. Многае, натуральна, залежыць ад яе складанасці. Некаторыя словы гады з тры знаходзяцца ў стадыі адгадвання.

Свае крыжаванкі Вячаслаў не выкідае. За склад макулатуры ў кватэры яму часцяком дастаецца ад родных. У адным куце – стосы газет і часопісаў з адгаданымі крыжаванкамі, асобна на паліцы – стосік з неадгаданымі. Тамашэвіч не лічыць сябе пераможаным. І не пакідае надзеі ўсё перакласці ў адну кучу.

– Акрамя аддрукаваных зборнікаў крыжаванак, у кіёсках купляю газеты "ПАК", "Викинг", "Горячие сканворды", "Магазин сканвордов", і часопіс "Каламбур", – гаворыць фатограф, – часта сябры нешта прыносяць. Таму дзеля абмену на рабоце заўсёды трымаю дзяжурную пачку цыгарэт.

За месяц адгадвае ў сярэднім 30 крыжаванак. Што тычыцца перадачы "Поле цудаў", то шмат разоў станавіўся яе пераможцам. Дома, ля тэлевізара.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

*КНІЖНАЯ МАЗАІКА*

**"Археалогія Беларусі"** у 4–х тамах, том 2, (выдавецтва "Беларуская навука"), **"Жалезны век і ранняе сярэднявечча"**. Том прысвечаны даследаванню жалезнага века на тэрыторыі Беларусі і ахоплівае перыяд з 8 ст. да н. э. па 8 ст. н. э. Аб'ём кнігі – 502 старонкі, цана – 1024000 рублёў.

**Поўны збор сачыненняў Янкі Купалы** (выдавецтва "Мастацкая літаратура"). Том 6 – паэмы і пераклады. Упершыню ў збор сачыненняў уключаныя паэмы "На Куццю" і "На Дзяды". 430 ст., 579000 руб.

**Збор сачыненняў Агаты Крысці** (выдавецтва "Кніжны дом", 40 т.). 416 ст., 637000 руб.

**"Тэатр лялек"** (выдавецтва "Полымя"). Гісторыя тэатра лялек, артыкулы па розных відах лялечнага тэатра: батлейка, ценявы і настольны, пальчыкавы і г. д. Прыведзеныя сцэнарыі, іх падача, прыблізны рэпертуар, дадзеныя метадычныя рэкамендацыі. 203 ст., 192000 руб.

**"Средневековый мир в терминах, именах и названиях"**. Складальнік Е. Д. Смірнова. Слоўнік–даведнік (выдавецтва "Беларусь"). Кніга падрыхтаваная калектывам вучоных–выкладчыкаў кафедры старажытнай гісторыі і сярэдніх вякоў БДУ. 383 ст., 1067000 руб.

**Міхаіл Стрыгалёў "VIQILIA TERTIA"** (Трэцяя варта). Вершы (выдавецтва "Мастацкая літаратура"). У зборнік увайшлі лепшыя вершы паэта. 351 ст., 780000 руб.

**Лідзія Адамовіч "Кветкі самотнай князёўны"** (серыя "Першая кніга празаіка"). 222 ст., 556000 руб.

**Ала Канапелька "Леталічэнне"**. Вершы. 127 ст., 406000 руб.

**"Лясная фітатэрапія". В. П. Тарасенка і інш.** Выдавецтва "Ураджай". 303 ст., 468000 руб.

Выдавецтва "Вышэйшая школа":

**"Общая психотерапия". В. Т. Кандрашэнка і інш.** Дапаможнік для ўрачоў. 4–е выданне. 524 ст., 815000 руб.

**А. А. Нікалаеў "Доврачебная помощь при травмах и хирургических заболеваниях. Охрана материнства и детства"**. 251 ст., 618000 руб.

**І. І. Ганчарык "Лихорадка".** 176 ст., 468000 руб.

***Гэтыя кнігі вы можаце набыць у кнігарні "Спадчына", Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 7.***

*МОЛАДЗЬ СУПРАЦЬ СНІДу*

## Я выбіраю жыццё

*ВІЛЕЙКА. 1 снежня фінішаваў цыкл мерапрыемстваў, накіраваны на прафілактыку СНІДу.*

У сераду падводзіліся вынікі конкурсу плакатаў "Я выбіраю жыццё". Перамог вучань Залескай СШ Антон Майсерскі.

Арганізатарамі СНІДаўскай прафілактыкі выступілі аддзелы моладзі, культуры райвыканкома, мясцовыя медыкі.

*Аддзел інфармацыі.*

*АЎТА–МОТА*

## У Смаргоні адкрыўся аўтарынак

*СМАРГОНЬ. На тэрыторыі станцыі тэхабслугоўвання аўтамабіляў адкрыўся аўтарынак.*

– У першы дзень работы на продаж было выстаўлена 18 аўтамабіляў, у тым ліку 2 з Маладзечна і адзін з Астравецкага раёна, – гаворыць дырэктар смаргонскай СТА **Віктар Міхалоўскі**. Таргі аказаліся ўдалымі для чатрых чалавек – двое прадалі і, адпаведна, двое купілі.

Першаму пакупніку дырэкцыя станцыі прадаставіла шэраг ільготаў, выдала гарантыйны талон на бясплатнае тэхабслугоўванне аўтамабіля на працягу месяца. Паўгода ён будзе мець пры абслугоўванні скідку да 10%, год СТА будзе абслугоўваць яго па-за чаргой.

Заезд на рынак і гандлёвыя месцы пакуль што бясплатныя. Плата бярэцца толькі ў выпадку куплі-продажу аўтамабіля.

– Будзем адкрываць «Аўтасалон», – плануе В. Міхайлоўскі. – У ім будуць выстаўляцца як новыя аўтамабілі, так і не прададзеныя на аўтарынку.

ВКФ «Ніва-ЗАС» адкрыла тут гандлёвы пункт, дзе прадае шашлыкі, прадукты ў дарогу.

*Гутарыла Ірына КАРНЕЕВА.*

*СЕСІЯ РАЙСАВЕТА*

## Пракурор наракае міліцыі

*МАЛАДЗЕЧНА. На сесіі райсавета міжрайпракурор **Генадзь Вештарт** канстатаваў, што ў раёне павялічылася колькасць злачынстваў, эканамічных правапарушэнняў. І прычыны гэтага далёка не заўсёды аб'ектыўныя. Пры ацэнцы работы гаррайаддзела ўнутраных спраў - самай магутнай сілавой структуры - ён адзначыў, што хаця грубых хібаў міліцыя і не дапусціла, але спрацавала ніжэй за свае магчымасці.*

Яшчэ ў пачатку года колькасць злачынстваў на Маладзечаншчыне змяншалася, аднак на сёння гэтага не назіраецца. Больш за тое, найбольш узрасла колькасць цяжкіх злачынстваў, найчасцей «адзначаліся» раней судзімыя і непаўналетнія.

Найбольш адбываецца крадзяжоў. У праваахоўных органах прызнаюцца, што прадухіліць крадзяжы асабістай маёмасці цяжка: адыгрывае тут сваю ролю і стаўленне пацярпелага да ўласнай маёмасці. Адказнасць жа за дзяржмаёмасць ляжыць на кіраўніках, матэрыяльна адказных асобах. Тым не менш, больш чым удвая ўзрасла колькасць крадзяжоў з магазінаў, баз, іншых аб'ектаў.

Міжрайпракурор адзначае, што сіламі праваахоўных органаў, у прыватнасці міліцыі, і прадпісаннямі яе начальніка **Я. Скварцова** сітуацыю выправіць немагчыма.

*Аддзел інфармацыі.*

## Хворым дзецям патрэбная дапамога

Мы, бацькі дзяцей, якія пакутуюць на гематалагічныя і анкалагічныя захворванні, звяртаемся да ўсіх людзей, чые сэрцы прымуць нашыя боль і гора як сваю асабістую бяду.

Наша аб'яднанне (грамадскае таварыства "Вікторыя–О") вядзе работу з 1992 года, нам вельмі патрэбныя дапамога і падтрымка. Мы ставім на мэце садзейнічанне ў стварэнні ўмоў для сем'яў, якія маюць хворых дзяцей, для лячэння, фізічнага развіцця і выхавання. Хочам развіваць і падтрымліваць дзелавыя кантакты з іншымі добраахвотнымі саюзамі, фондамі, асацыяцыямі.

Хочацца як мага болей паспець зрабіць для дзяцей, якіх ужо закрануў Чарнобыль, для якіх словы "кропельніца, катэтэр, шпрыц" зрабіліся звычайнымі.

Будзем удзячныя за любую дабрачынную дапамогу. Мы верым, што знойдзем разуменне, сустрэнем чулых, спагадлівых людзей.

Пералічаныя фінансавыя сродкі пойдуць на набыццё медыкаментаў, фруктаў, сокаў, навагодніх падарункаў, цацак.

**222310 г. Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 82–43, тэл. 66913. Разліковы рахунак 3015003880016 АК "Белпрамбудбанк" код 346 г. Маладзечна.**

*Савет аб'яднання: Алена АРЦЕМ'ЕВА, Святлана ЛАВОР, Ларыса МІШУНІНА.*

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

## Курсы валют НБ РБ

| | 25 лістапада | 2 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 310 000,00 руб. | 313 000,00 руб. |
| Марка Герм. | 162 645,27 руб. | 161 770,73 руб. |
| Літ | 77 478,69 руб. | 78 228,49 руб. |
| Рас. руб. | 11 710,00 руб. | 11 700,00 руб. |
| Злоты | 74 349,44 руб. | 73 921,00 руб. |
| ЕЎРА | 318 106,50 руб. | 316 396,05 руб. |

**"Вулічныя" курсы ў Маладзечне**

Долар ........ 700 000–730 000 руб. ..... 730 000–760 000 руб.

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) 24.11 | 1.12 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 740 | **795** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 2532 | **2710** |
| Сасіскі | 1 кг | 715 | **715** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 660 | **650** |
| Рыс | 1 кг | 380 | **380** |
| Грэчка | 1 кг | 550 | **550** |
| Цукар | 1 кг | 235 | **235** |
| Алей | 1 л | 550 | **580** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 263 | **290** |
| Маянэз | 250 г | 110 | **110** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 745 | **780** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 270 | **270** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 200 | **190** |
| Лімоны | 1 кг | 650 | **650** |
| Бананы | 1 кг | 380 | **430** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 140 | **150** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | **500** |
| Масла | 1 кг | 1200 | **1200** |
| Тварог | 1 кг | 450 | **500** |
| Малако | 1,5 л | 200 | **200** |
| Бульба | вял.вядро | 600 | **500** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 350 | **350** |
| Яблыкі | 1 кг | 350-400 | **400** |
| Капуста | 1 кг | 60 | **70** |
| Морква | 1 кг | 100 | **150** |

*КУЛЬТУРА*

## Творчая акцыя «Бум-Бам-Літ» і «Новы фронт мастацтва»

*МАЛАДЗЕЧНА. У музычнай школе адбылася творчая акцыя ўдзельнікаў літаратурна-мастацкіх аб'яднанняў «Бум-Бам-Літ» і «Новы фронт мастацтва».*

Літконсульт Саюза беларускіх пісьменнікаў Зміцер Вішнеў гаворыць, што падрыхтоўка эпатажнага мерапрыемства, падчас якога маладыя людзі чыталі паэтычныя і дэманстравалі графічныя творы, заняла некалькі месяцаў.

Творы З. Вішнева выклікалі значную цікавасць за межамі Беларусі. Нядаўна ён наведаў Швецыю і Фінляндыю па запрашэнні Шведскага інстытута ў Стакгольме і Музея сучасных мастацтваў у Хельсінкі, якія прадставілі творы візуальнай паэзіі Зміцера Вішнева ў зборніках і на выстаўках.

У аб'яднанне «Бум-Бам-Літ», заснаваным колькі год таму, увайшлі маладыя пісьменнікі і мастакі, якія імкнуліся да сінтэзу мастацтваў. «Новы фронт мастацтва», што нядаўна прэзентаваў свой часопіс «Nihil», прытрымліваецца пазіцый экстрэмальнай, эпатажнай, канцэптуальнай літаратуры, якая ў сваіх доследах шырока выкарыстоўвае інсталяцыю і перформанс.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## Мінкульт дбае пра дыскатэку

МЯДЗЕЛ. Новую апаратуру для дыскатэкі падарыла гораду Міністэрства культуры. Кошт падарунка ацэньваецца прыблізна ў 1 тысячу долараў ЗША.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА*

## Справа «маньяка» жыве

Справа мужчыны, які пранікаў у дзіцячыя летнікі і рабіў дзецям уколы, знаходзіцца на расследаванні ў Мінскай абласной пракуратуры. Звестак адтуль пакуль што, натуральна, няма.

Аднак высвятляюцца цікавыя падрабязнасці паходжанняў «маньяка». У прыватнасці, адной сталічнай вобласцю гэты бізнесмен (ён на самой справе паспяхова займаўся бізнесам) не абмежаваўся. Наведваў ён яшчэ Віцебшчыну і Гомельшчыну, але мясцовыя ўлады ўсяляк хавалі гэтыя здарэнні.

Зафіксаваныя выпадкі, калі выхавальнікі, якія нядобрасумленна паставіліся да сваіх абавязкаў, працягваюць займаць пасады. Па крайняй меры, адна з такіх выхавальніц працуе нават у школе. Прычына – адміністрацыя некаторых летнікаў не азнаёміла іх з абавязкамі.

Зрэшты, і работнік міліцыі **Артур Шабалін**, які затрымаў падазронага мужчыну, расказваў, што звяртаў увагу ў летніках на незачыненыя форткі. Калі ж праз некаторы час правяраў, аказвалася, што дарога «маньяку» была папярэднейшым адкрытая.

Урачы выказваюць думку, што ў затрыманага мужчыны, акрамя нейкіх адхіленняў у псіхіцы, ёсць выражанае жаданне «незвычайнага», жаданне праводзіць эксперыменты.

*Аддзел інфармацыі.*

# “МОЙ РОДНЫ КУТ, ЯК ТЫ МНЕ МІЛЫ...”

Радкі з паэмы “Новая зямля” Я. Коласа могуць быць паэтычным лейтматывам творчасці аднаго са старэйшых маладзечанскіх мастакоў, члена Саюза мастакоў Беларусі з 1967 года і творчага нацыянальна-патрыятычнага аб’яднання “Пагоня” Кастуся Іванавіча Харашэвіча.

У пазамінулым годзе Кастусь Іванавіч адзначыў дзве вельмі важныя ў сваім жыцці даты - 70-годдзе з дня нараджэння і 40 год творчай дзейнасці. Шлях да якіх быў зусім няпросты. Шмат было пражыта як чалавекам і як творцам.

Нарадзіўся Кастусь Харашэвіч 6 ліпеня 1927 года ў вёсцы Літва, недалёка ад Маладзечна. З дзяцінства ён запомніў маленькую хатку з круглых бярвенняў, без падлогі. На прыпечку ў зімовыя вечары гарэла лучына. Вельмі дзівосныя, казачныя ад яе былі цені на сценах. Хатка стаяла на самай ускраіне вёскі, і зімою цераз маленькае акенца быў відаць далёкі прастор на беразінскія балоты. Яшчэ з дзяцінства Кастусь Іванавіч запомніў аповяд маці аб тым, што, калі замярзала рака Беразіна, то ваўкі падыходзілі ажно да самай вёскі. Нават былі выпадкі, што душылі сабак. Тады дарослыя выходзілі на вуліцу і білі палкай у бляшаную заслону ад печы. І такім чынам адганялі ваўкоў. Гэта было ў марозныя халодныя зімы. У 1931 годзе хата згарэла. Мастак успамінае: “Памятаю, як мяне вынеслі на поле, далей ад агню. І я сядзеў у нейкіх падушках, і, як зачараваны, глядзеў на полымя, што ахапіла хату. Мітусіліся людзі, лямантавалі жанчыны, вылі сабакі. Я тады яшчэ не разумеў, якое вялікае гора селяніну прыносіць пажар. Бацька мой быў добры сталяр, і таму, каб неяк выжыць сям’і, пайшоў на заробкі ў Маладзечна. Праз пэўны час наша сям’я пераехала ў вёску Гарадзілава, купіўшы ў мясцовага пана Лянкоўскага кавалак зямлі, пачала адбудоўвацца па-новаму”.



Кастусь Харашэвіч.

ФОТА З АРХІВА «РГ».

Цікава тое, што ў свой час вёску Гарадзілава наведваў Янка Купала, які працаваў тады на бровары ў Яхімоўшчыне. Ён прыязджаў да свайго сябра Андрэя Посаха, які там настаўнічаў. Маці Кастуся Харашэвіча якраз вучылася ў той час у школе. Пазней і ён скончыў гарадзілаўскую сямігодку.

У дзяцінстве мастак захапляўся не толькі літаратурай, але і музыкай, спевамі, маляваннем. Так сталася, што любоў да малявання ўзяла верх над іншымі відамі мастацтва. Што вызначыла гэты выбар? Цяжка сказаць. Можа, паездка ад школы на дзесяць дзён у Вільню? Можна сабе ўявіць эмацыянальны стан дванаццацігадовага хлапчука, які ўпершыню трапляе ў такі горад. Яму было там цікава ўсё. Асабліва ў дзіцячае сэрца запала Зарэчча з яго дзіўнай архітэктурай, вузкімі брукаванымі вулачкамі, пляцамі, шпілямі сабораў, переразвонам дзесяткаў званоў, пахамі вуліц. Ён хадзіў як зачараваны, углядаючыся ў гэту прыгажосць. Вярнуўшыся да дому, Кастусь не мог утрымацца, каб не пакінуць на паперы свае ўражанні ад сустрэчы з Вільняй. Праўда, фарбаў не было, але быў аловачак, які бацька аднойчы прывёз яму з кірмашу.

Другі раз у Вільню ён ужо трапіў пасля вайны, калі паступаў у мастацкі інстытут. За ўдзел у студэнцкіх акцыях Кастуся Харашэвіча выключылі з інстытута, але хлопец не пакідаў надзею паступіць у вышэйшую навучальную мастацкую ўстанову. На гэты раз ён выбраў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, вячэрняе аддзяленне. Калі былі здадзеныя ўсе ўступныя экзамены, мандатная камісія палічыла яго асобу нядобранадзейнай і вярнула назад дакументы. А прычына яго нядобранадзейнасці заключалася ў тым, што ў гады вайны Кастусь Харашэвіч вучыўся ў Маладзечанскай адміністрацыйна-гандлёвай школе. Да нядаўняга часу пра гэту старонку ў беларускай гісторыі стараліся не ўзгадваць, таму пра гэты перыяд у жыцці мастака хацелася б больш падрабязна распавесці, бо менавіта тады адбывалася станаўленне К. Харашэвіча як чалавека, творцы, грамадзяніна.

Адміністрацыйна-гандлёвая школа ў Маладзечне дала Беларусі шмат сумленных, шчырых, самаадданых людзей, кожны з якіх стаў сапраўдным прафесіяналам у сваёй справе. Дырэктарам гэтай навучальнай установы быў Барыс Кіт, імя якога сёння добра вядомае ў ЗША, Францыі, Германіі як імя матэматыка, фізіка, хіміка, доктара філасофскіх навук, акадэміка Міжнароднай Акадэміі астранаўтыкі, сябра шматлікіх міжнародных астранаўтычных таварыстваў. Гэта тое, чаго дасягнуў Барыс Кіт пасля вайны. А ў час вайны ён быў дырэктарам і выкладаў фізіку і матэматыку ў створанай ім школе. Беларускую мову выкладала Вольга Пагуда, матэматыку - Барыс Кіт, гісторыю – дацэнт Мінскага універсітэта Макарэвіч, гандаль і права – віленскі юрыст, доктар права Дзмітрыеў, беларускую літаратуру – Янка Давідовіч, музыку – віртуозны скрыпач, выпускнік Кіеўскай кансерваторыі Камароўскі. Пры школе існаваў драматычны гурток і аркестр народных інструментаў”. Пра гады вучобы ў школе Кастусь Іванавіч заўсёды згадвае з цеплынёй і ўдзячнасцю.

У 1953 годзе, пасля шматлікіх выпрабаванняў лёсу, Кастусь Харашэвіч усё ж такі паступае ў Мінскае мастацкае вучылішча. Вучыўся на курсе у А. Малішэўскага і К. Касмачова. Вядома, нельга сапастаўляць мастацкую вучэльню тых гадоў і сённяшнюю. У той час значны ўхіл рабіўся на савецкае мастацтва, пераважна рускае. У ім было шмат мастакоў, якія запалі ў душу маладому творцу: Левітан, як пейзажыст, Сурыкаў, як мастак гістарычнага жанру ды інш. І пра гэта ён ніколі не шкадаваў. Але шкадаваў пра іншае: што намнога пазней даведаўся пра беларускіх мастакоў. Такіх, як Фердынанд Рушчыц, Пётра Сергіевіч, Язэп Драздовіч. Яны жылі і стваралі ў той час, калі і ён ужо быў на свеце, калі і ён углядаўся ў гэтае неба, у гэтыя палеткі.

У канцы 50-х, пасля сканчэння мінскага мастацкага вучылішча, К. Харашэвіч прыязджае ў Маладзечна. Гэты час можна лічыць пачаткам творчага шляху мастака. Як у кожнага творцы, на раннім этапе ідзе пошук свайго месца, сваёй адметнай жывапіснай мовы, свайго жанру ў мастацтве.

Кастусь Іванавіч свой творчы шлях пачынаў з сюжэтна-тэматычнай карціны. Можа, гэта было звязана з тым, што мастак адчуваў: штосьці не зроблена, недасказана з гістарычнага, культурнага мінулага Заходняй Беларусі. Мясцовы музей заказаў работу аб дзейнасці Беларускай Работніцка-Сялянскай Грамады на чале з Браніславам Тарашкевічам. Ён з задавальненнем узяўся за работу. Потым былі іншыя тэматычныя творы. Сам мастак кажа: “Урэшце рэшт выявілася, што нарадзіўся я пейзажыстам. Нават лічу, што гэта закладзена генетычна ў чалавеку. Жыццё – гэта той час, калі рэалізуюцца ўсе прыродныя дараванні. Якой бы ні была спакуса да тэматычнай карціны, але любоў да прыроды ўзяла перавагу. І менавіта з таго часу я і пачаў займацца пейзажам. Былі цяжкасці. Афіцыйная арыентацыя была на пейзаж індустрыяльны, пейзаж новабудоўляў. І вось тут былі свае супярэчнасці. Нарадзіўшыся ў Заходняй Беларусі, увабраўшы яе прыроду, вулачкі, мястэчкі, я проста не мог не пісаць тое, што яшчэ з дзяцінства непакоіла сэрца, хвалявала душу. Канкрэтныя элементы да сваіх пейзажаў я знаходзіў недалёка ад сваёй роднай вёскі Гарадзілава, Маладзечна, ваколіцы якога ў радыусе 50 кіламетраў прайшоў пехатой”. Вядома, К. Харашэвіч замалёўваў не толькі краявіды Маладзечаншчыны. Вандраваў па Міншчыне, Браслаўшчыне, Палессі, занатоўваючы ў сваіх эцюдах ціхія куточкі беларускіх вёсачак, мястэчак.

“Вятрак” (1961), “Студня” (1964), “Пейзаж з млынам” (1961), “Хата селяніна” (1966), “Каля студні” (1963). Здаецца, на першы погляд, простыя, немудрагелістыя назвы, сюжэты, але якой духоўнай сілай павявае ад іх. Хаты, ветракі – гэта сімвалы жыцця, надзей шматлікіх пакаленняў продкаў. Для нас гэта гісторыя, для нашых прадзедаў гэта было жыццё са сваімі штодзённымі думамі і патрэбамі. Яны жылі з працы сваіх рук. Зямной ласкі, якая аддзячвала за клопат пра яе добрым і шчодрым ураджаем. І тады з магутнасцю пачыналі круціць свае крылы ветракі. Хлеб і хата былі самым галоўным ў жыцці селяніна.

Творы Кастуся Харашэвіча з’яўляюцца вяртаннем нам страчаных каштоўнасцяў, нашых духоўных вытокаў. Відаць, няма сёння на Беларусі мастака, які ў сваёй творчасці такое значэнне адводзіў вёсцы з яе выганамі і сенажацямі, скрыпучымі журавамі-калодзежамі і хацінамі. Палотны Кастуся Харашэвіча – гэта памяць зямлі, памяць пакаленняў.

Працягам ушанавання бацькаўшчыны выглядаюць творы, прысвечаныя мястэчкам і ўтульным, ціхім гарадкам: “Беларускае мястэчка” (1969), “Вуліца ў Горадні” (1978), “Віленскія муры” (1966), “Даждлівы дзень у Івянцы” (1984), “Вільня. Зарэчча” (1977) ды іншыя.

У кожнага чалавека ёсць мясціны, пры сустрэчы з якімі ўзнікае дзіўнае трапяткое хваляванне, як быццам ты сустрэўся са сваім першым каханнем. Для Кастуся Харашэвіча такія пачуцці звязаныя з Вільняй. І адразу на ўспамін прыходзяць радкі з верша Максіма Багдановіча:

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людскі скрозь заліў паясы тратуараў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць,
І гараць аганьком вочы змучаных твараў!

А завернеш у завулак – ён цесны, крывы,
Цёмны шыбы глухіх, старасвецкіх будынкаў,
Між каменнямі – мох і сцяблінкі травы,
І на вежы, як круглае вока савы,
Цыферблат – пільны сведка мінулых учынкаў...

Мастак зачараваны гэтым горадам. Не адно палатно было прысвечана яго вулачкам, саборам, архітэктурным помнікам. Але найлюбімым для Кастуся Іванавіча па-ранейшым застаецца Зарэчча. Крок за крокам па брукаванцы, завярнуўшы ў завулак, мы трапляем на ціхую, вузкую вулачку, як той прахожы ў творы жывапісца “Вільня. Зарэчча.”. Па ёй немагчыма некуды спяшацца, бегчы, а трэба толькі павольна, нетаропка ісці і ўглядацца ў яе своеасаблівую архітэктуру вузкіх вулачак, брукаванак. Для многіх пакаленняў прадстаўнікоў беларускай культуры Вільня была горадам натхнення, здзейсненых мар і надзеяў. І таму яшчэ больш і больш хочацца ўглядацца ў творы Кастуся Іванавіча Харашэвіча, прысвечаныя Вільні, і згадваць, і марыць, і спадзявацца на сустрэчу.

З нагоды юбілею мастака ў Мінску і Маладзечне былі наладжаныя персанальныя выстаўкі, творчыя сустрэчы жывапісца з грамадскасцю. У школах Маладзечанскага раёна прайшлі выстаўкі мастака, дзе экспанаваліся творы ранняга і больш позняга перыядаў творчасці.

У Кастуся Іванавіча ёсць адна мара: сабраць усе свае палотны, якія захоўваюцца ў розных музеях краіны, і выставіць у адной зале. Хочацца спадзявацца, што гэтая мара спраўдзіцца, і на наступнай персанальнай выстаўцы К. Харашэвіча мы зможам убачыць творы розных перыядаў яго няпростага жыцця.

Ірына ЗУБРЫЦКАЯ-УСАВА.



Кастусь Харашэвіч. «Пасля навальніцы»

## ПАДЗЕЯ

## Прысвечана Караткевічу

Сёлета споўнілася 35 гадоў са дня выхаду ў свет гістарычна-дэтэктыўнага рамана Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». Гэтай знамянальнай падзеі была прысвечаная літаратурная вечарына, якая адбылася ў цэнтральнай раённай бібліятэцы і праведзеная сябрамі краязнаўчага гуртка «Жывіца». У ёй удзельнічалі настаўнікі мясцовых школ, мастакі, пісьменнікі, краязнаўцы. Была наладжаная выстаўка прыжыццёвых кніг Уладзіміра Караткевіча.

*С.Т.*

## ВЫСТАЎКІ

## Работы Аляксандра Зубрыцкага заваёўваюць Варшаву і Мінск

МІНСК. На працягу месяца ў зале бібліятэкі імя Адама Міцкевіча, што ў касцёле святых Сымона і Алены (Чырвоны касцёл), праходзіла выстаўка незвычайных карцін былога ўрача-афтальмолага (працаваў у Вілейцы з 1956 па 1959 год у абласной бальніцы) Аляксандра Зубрыцкага.



*Аляксандр Зубрыцкі, урач і мастак, сярод сваіх работ.*

ФОТА З БУКЛЕТА ДА ВЫСТАЎКІ.

Работы выкананыя арыгінальна: дробныя кавалачкі каляровага шкла, пясок з дапамогай клею наносяцца на фанеру таўшчынёй 10 мм. Адна такая карціна ствараецца на працягу 2–4 месяцаў карпатлівай працы з дапамогай пінцэта. Аляксандр гаворыць, што такі від мастацтва амаль не мае аналагаў у свеце.

У сталіцу карціны прыехалі з Варшавы, дзе мелі поспех. Адлюстраваныя архітэктурныя і гістарычныя помнікі Беларусі. У Мінску выстаўку наведала нямала вядомых людзей, якія ў кнізе водгукаў пакінулі запісы пра свае ўражанні.

Выстаўка складаецца з 44 карцін, падзеленых на тры цыклы.

"Касцёлы Беларусі". Яго адкрывае Вілейскі Княжаўзвіжанскі касцёл, які пачаў будавацца ў 1906 годзе і быў асвечаны ў 1913 годзе. На астатніх карцінах гэтага цыклу – выявы іншых касцёлаў з нашага рэгіёна: Засвір, Гервяты, Смаргонь, Івянец, а таксама Паставы, Глыбокае, Докшыцы і іншыя – усяго 14.

Наступны цыкл – "Беларусь Міцкевіча" – прымеркаваны да 200–годдзя з дня нараджэння нашага знакамітага земляка. 4 работы прысвечаныя яго каханай (Марыля Верашчака), а 5 – непасрэдна яму.

Трэці цыкл – гэта 21 карціна на тэму "Крыжовая дарога да незалежнасці", дзе адлюстраваныя помнікі на магілах воінаў, што загінулі ў вызваленчых войнах, паўстаннях за незалежнасць. Сярод іх помнік на брацкай магіле 18 ваяроў, што загінулі ў паўстанні 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, у Куранцы Вілейскага раёна; пахаванні звыш за 200 воінаў Рэчы Паспалітай (вайна 1919–20 гг.) на Вілейскіх могілках, якія адноўленыя год 5 таму. Ёсць фрагменты рэдкіх помнікаў з Кабыльніка (цяпер вёска Нарач Мядзельскага раёна), Вішнева Валожынскага раёна і іншыя малавядомыя мемарыялы.

Цяпер у планах Аляксандра Зубрыцкага – серыя "Замкі Беларусі, якія захаваліся з часоў Вялікага княства Літоўскага".

Візітнай карткай выставак мастака з'яўляецца карціна з выявай Вілейскага касцёла. І гэта не выпадкова, таму што ў 1956 годзе ён, выпускнік Мінскага медыцынскага інстытута, быў накіраваны на работу ў Вілейскую абласную бальніцу, дзе працаваў 3 гады і шмат ездзіў па нашым рэгіёне. Ураджэнец Магілёўшчыны, ён быў моцна ўражаны мясцінамі Заходняй Беларусі.

***Анатоль РОГАЧ, Вілейка.***

## НА ВАШУ КНІЖНУЮ ПАЛІЦУ

**Памяць. Мядзельскі раён.**

Кніга – гісторыка-дакументальная хроніка, у якой на падставе архіўных дадзеных, замалёвак, артыкулаў, успамінаў непасрэдных удзельнікаў падзеяў расказваецца аб гісторыі мядзельскай зямлі, яе знакамітых людзях.

*Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", Мінск, 1998 г.*

**Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Том 5.**

Шматтомная гістарычная энцыклапедыя адлюстроўвае шлях беларускага народа ад сівой даўніны да нашых дзён. Важнае месца ў выданні займаюць артыкулы, прысвечаныя палітычным, грамадскім і ваенным падзеям, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі. Не абдзеленыя ўвагай геральдычныя, нумізматычныя, генеалагічныя тэмы нашай гісторыі.

*Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", Мінск, 1999 г.*

**Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Том 1.**

"Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя" ў 4 тамах – фундаментальнае даследаванне літаратурнага працэсу Беларусі 1901-1955 г.г. Том 1 прысвечаны разгляду літаратурнага руху пачатку стагоддзя (1901-1920 гг.). Як том загалоўны, ён мае "Уводзіны" да ўсяго выдання і складаецца з аглядных раздзелаў.

*Выдавецтва "Беларуская навука", 1999 г.*

## З ГІСТОРЫІ ШКОЛЬНІЦТВА

# Галасы разбуджаных птушак

### З гісторыі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі

(Працяг. Пачатак №№ 6-11)

### Грамадскія і палітычныя дзеячы

**Рак-Міхайлоўскі Сымон Аляксандравіч** (2.4.1885 – 27.11.1937) нарадзіўся ў вёсцы Максімаўка Маладзечанскага раёна ў сялянскай сям'і. Скончыў Маладзечанскую семінарыю і педагагічны інстытут у Феадосіі. Выдатны дзеяч нацыянальнага руху. Удзельнічаў у баях на франтах Першай сусветнай вайны. Уваходзіў у склад БСГ, адзін са стваральнікаў Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Заснавальнік Бабруйскай беларускай настаўніцкай семінарыі. У 1921 г. – выкладчык на Беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні. З 1922 г. пасол польскага Сойма ад насельніцтва Заходняй Беларусі. Аўтар музыкі да верша М. Багдановіча "Зорка Венера", беларускіх падручнікаў па матэматыцы. Адзін з кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. 15 студзеня 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 12 гадоў зняволення. З 1931 г. у Савецкай Беларусі. Працаваў дырэктарам Мінскага гістарычнага музея.

Загінуў на Салаўках у 1937 годзе.

**Валынец Флягонт Ігнатавіч** (8.1.1879 – 9.10.1941) нарадзіўся ў Вілейцы Мінскай вобласці. У 1897 г. скончыў семінарыю і пачаў працаваць настаўнікам пачатковых школ Вілейшчыны. Прыхільнік савецкага ладу жыцця, неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. Актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага руху. З 1927 г. член Галоўнай управы ТБШ. У1928 г. быў абраны беларускім паслом у польскі Сойм. Арыштаваны ў 1930 г. польскімі ўладамі і асуджаны на 8 гадоў зняволення. З 1932 г. у Мінску. Працаваў у Наркамаце камунальнай гаспадаркі БССР.

Загінуў на Салаўках.

**Пашковіч Мікола Феліксавіч** (12.12.1893 – 1938(?)) – беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, педагог. Нарадзіўся ў г. Глыбокае Віцебскай вобласці. Старэйшы брат Янкі Пашковіча. Скончыў пачатковую школу і настаўніцкую семінарыю. Быў мабілізаваны ў армію. У лютым 1916 г. скончыў Уладзімірскае вайсковае вучылішча. Ваяваў на франтах першай сусветнай вайны. З'яўляўся членам Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, быў удзельнікам Першага Усебеларускага кангрэса. У 1918 – 1920 гг. працаваў настаўнікам беларускіх школ у Мінску.

Адзін з лідэраў і член ЦК БПСР. У 1921 г. быў арыштаваны ДПУ БССР, але ў хуткім часе вызвалены. Скончыў сацыяльна-гістарычнае аддзяленне БДУ. 26 сакавіка 1927 г. быў паўторна арыштаваны органамі ДПУ БССР "за ўдзел у нелегальным студэнцкім гуртку", высланы на 3 гады ў г. Уральск.

Па некаторых звестках, загінуў на Салаўках.

**Пашковіч Ян Феліксавіч** (22.5.1898 – 19.1.1938) - беларускі грамадскі дзеяч, журналіст. Нарадзіўся ў г. Глыбокае Віцебскай вобласці. Скончыў пачатковую школу, а ў 1918 г. - Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, якая ў той час знаходзілася ў Смаленску. Працаваў настаўнікам на Міншчыне, а з 1918 г. – у Мінску. З'яўляўся сябрам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У 1921 – 1928 г.г. працаваў адказным сакратаром рэдакцыі газеты "Савецкая Беларусь". Быў арыштаваны 17 лютага 1930 г. і высланы на 5 гадоў у г. Угліч.

Расстраляны 19 студзеня 1938 года.

**Мятла Пётр Васільевіч** (1890 – 12.8.1936) - беларускі грамадскі і культурны дзеяч, педагог. Нарадзіўся ў вёсцы Кухцінцы Міёрскага раёна. З 1914 г. у дзеючай арміі. Быў паранены, узнагароджаны медалямі. На радзіму вярнуўся ў 1917 г. Адзін з арганізатараў беларускіх школ у Заходняй Беларусі, член ЦК Беларускай сялянска-работніцкай Грамады.

У 1922–25 г.г. жыў у Маладзечне. Адчыніў у горадзе беларускую кнігарню, арганізаваў драмгурток і паставіў купалаўскую "Паўлінку". З'яўляўся кіраўніком Маладзечанскага аддзялення Таварыства беларускай школы. У выніку абмена палітвязнямі – з 1930 г. у СССР. Аўтар кнігі "Аб Таварыстве беларускай школы і яго барацьбе" (Мн, 1932). Рэпрэсіраваны.

**Каранеўскі Язэп Пятровіч** (11.1.1888 – 29.10.1937) - беларускі палітычны і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Заслаўі Мінскай вобласці. У 1909 г. скончыў настаўніцкую семінарыю, у сценах якой пазнаёміўся з беларускім нацыянальным рухам і стаў яго актыўным удзельнікам. Скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Працаваў настаўнікам народных вучылішчаў, выкладчыкам Мінскага настаўніцкага інстытута. У 1919 г. намеснік маршалка педагагічнай рады Мінскага беларускага педагагічнага інстытута. З 1920 г. член КП(б)Б і загадчык аддзела сацыяльнага выхавання Наркамата асветы БССР.

У другой палове 20-ых гадоў займаў пасаду намесніка старшыні і члена прэзідыума Інбелкульта. З 1929 г. па 1931 г. працаваў рэктарам БДУ, быў кандыдатам у члены ЦВК БССР. У 1932 г. накіраваны ў Маскву ў якасці намесніка дырэктара Інстытута чырвонай прафесуры.

Быў рэпрэсіраваны і загінуў у Сібіры.

**Капуцкі Андрэй Рыгоравіч** (2.5.1897 – 17.5.1934) - беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, журналіст. Нарадзіўся ў Маладзечне ў сям'і рамесніка. Удзельнік першай сусветнай вайны. Адзін з кіраўнікоў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (БРА), якая ў снежні 1923 г. уступіла ў КПЗБ. Быў членам ЦК КПЗБ. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. З канца 20-ых гадоў у БССР. У 1931 г. скончыў Камуністычны універсітэт Беларусі. Працаваў загадчыкам сектара друку ЦК КП(б)Б, выконваў абавязкі рэдактара газеты "Савецкая Беларусь". Аўтар зборніка апавяданняў "Паноў трэба знішчыць гуртам" (пад псеўданімам Язэп Пралеска). Арыштаваны ў 1933 г. па справе "Беларускага нацыянальнага цэнтра".

Загінуў 17 травеня 1934 года. Месца пахавання невядомае.

**Шыла Мікола** (1888 - 1948) – беларускі палітычны і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся на Міншчыне. Актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Адзін з кіраўнікоў самай уплывовай партыі ў часы грамадзянскай вайны – Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Некалькі разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі. Працаваў настаўнікам у беларускіх навучальных установах у міжваенны перыяд у Вільні. З 1941 г. на эміграцыі. Аўтар успамінаў пра Янку Купалу, напісаў вельмі цікавую палемічную брашуру "А што далей?" (Лондан, 1948).

Памёр і пахаваны ў г. Ватэнштэт у Нямеччыне.

**Рагуля Васіль** (16.7.1879 – 16.6.1955) - беларускі грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў вёсцы Агукевічы Навагрудскага раёна. Вучыўся ў пачатковай школе, а затым у Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў у 1898 г. Працаваў настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы Налібокі. У 1906 г. скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. У 1914 г. быў мабілізаваны ў войска, прайшоў франты першай сусветнай вайны. Удзельнік Усебеларускага кангрэса, які праходзіў у снежні 1917 г. у Мінску. Служыў у Чырвонай арміі. У 1922 г. быў абраны беларускім паслом у польскі Сойм, а пасля, у 1928, – сенатарам.

У час другой сусветнай вайны працаваў у розных беларускіх арганізацыях, створаных з дазволу нямецкіх уладаў. З 1944 года на эміграцыі. Аўтар вельмі цікавай кнігі "Успаміны", якая выйшла ў 1957 годзе ў Нью-Йорку.

Памёр і пахаваны на беларускіх могілках у ЗША.

**Шаранговіч Васіль Фаміч** (4.3.1897 – 18.3.1938) нарадзіўся ў в. Качаны Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў семінарыю, служыў з 1918 г. у Чырвонай арміі. Быў на падпольнай рабоце ў Мінскай губерніі, акупаванай польскімі войскамі. Асуджаны белапалякамі на 20 гадоў катаргі, у 1920 г. абменены савецкім урадам.

Працаваў намеснікам наркома юстыцыі БССР, быў на прафсаюзнай рабоце. У 1930 г. становіцца членам бюро і другім сакратаром ЦК КП(б)Б. З сакавіка 1937 г. займаў пасаду першага сакратара ЦК КП(б)Б.

Расстраляны 18 сакавіка 1938 г.

**Якубёнак Рыгор Усцінавіч** (1882(?) - 1940) нарадзіўся ў в.Залесінкі на Шаркаўшчыне. Скончыў настаўніцкую семінарыю. Вучыўся ў Полацку, быў прызваны ў царскую армію. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У 1917 г. вярнуўся на радзіму. Працаваў настаўнікам у беларускіх школах. З 1924 г. дырэктар Клецкай беларускай гімназіі. Выкладаў беларускую мову і літаратуру, а ў малодшых класах – матэматыку. У 1932 г. гімназія была закрытая. Р. Якубёнак адмовіўся ад прапановы працаваць у польскай школе. Жыў на гаспадарцы.

Памёр у 1940 годзе і пахаваны на радзіме.

**Касяк Ян Пятровіч** (1890(?) – 1965(?)) нарадзіўся на Віленшчыне. Скончыў настаўніцкую семінарыю. Актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Быў членам Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. У 1920-х гадах быў рэдактарам беларускай газеты "Наша праўда". Жыў у Вільні. Заслужаны настаўнік Літоўскай ССР.

Больш дакладнымі звесткамі пра лёс гэтага чалавека, на вялікі жаль, не валодаем.

**Асташонак Андрэй** (15.10.1898 – 1938(?)) нарадзіўся на Міншчыне. У 1910 г. скончыў настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам на Лідчыне. Удзельнік першай сусветнай вайны. З 1918 г. студэнт Мінскага настаўніцкага інстытута, уваходзіў у беларускую арганізацыю "Маладая Беларусь". Працаваў сакратаром Саюза працаўніком асветы Беларусі, загадчыкам аддзела ЦБ КП(б)Б. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1925).

Далейшы лёс невядомы.

**Рунец Ілля** (12.10.1895 – 1937(?)) нарадзіўся на Міншчыне. У 1915 г. скончыў настаўніцкую семінарыю. Ваяваў на франтах Першай сусветнай вайны. З 1919 г. студэнт Мінскага педінстытута. Уваходзіў у арганізацыю "Маладая Беларусь", затым быў членам КП(б)Б. Працаваў настаўнікам, інструктарам ЦБ краязнаўства на Міншчыне.

Далейшы лёс невядомы.

**Чатырка Міхась** (1883 – 1940(?)) нарадзіўся ў мястэчку Любча на Навааградчыне ў сялянскай сям'і. Скончыў матэматычны факультэт Віленскага настаўніцкага інстытута. Працаваў настаўнікам у Навагрудку, Сенна, Міры. З 1924 г. у Навагрудскай беларускай гімназіі, дзе выкладаў фізіку і матэматыку. Пасля ліквідацыі ў 1934 годзе гімназіі быў пераведзены ў Заходнюю Польшчу (Цеханув).

У 1939 г. вярнуўся на радзіму.

Быў арыштаваны і разам з грамадоўцамі вывезены ў Ачынскія лагеры (Краснаярскі край). Далейшы лёс невядомы.

***Язэп РОКАШ.***

*(Заканчэнне будзе).*

## ГАСПАДЫНІ НА ЗАМЕТКУ



**Посныя бурачкі**

Вараныя ці спечаныя бурачкі ababраць, дробна пакрышыць альбо здзерці на тарку. Падсмажыць у алеі трохі пакрышанай цыбулі, змяшаць яе з бурачкамі, пакласці жменьку вымытых разынак, дадаць трохі воцату, цукру і солі і тушыць, памешваючы, каб не падгарэлі. Перад паданнем абкласці пасмажанай у алеі рыбай альбо грыбамі, адваранымі, абсыпанымі мукой і падсмажанымі ў алеі.

**Суп з гародніны**

Зварыць разнастайнае карэнне з соллю, паклаўшы некалькі сушаных баравікоў, працадзіць і пакласці ў гэты адвар крыху белай фасолі, некалькі ababраных бульбін, крышанай морквы і белай капусты (напачатку кладзецца тая гародніна, якая варыцца даўжэй). Паставіць на агонь і, як толькі гародніна будзе мяккая, можна падаваць на стол.

**Посная капуста**

Сшаткаваць капусту, абліць варам, адціснуць і пакласці ў рондаль, заліць бурачным расолам, пасаліць і варыць да мяккасці. Пакаштаваць і, калі надта кіслая, даліць трохі вады. Як зварыцца, пакласці вялікую лыжку масла, шклянку смятаны, кватэрку (≈ 180 г.) тоўчаных грыбоў, столькі ж пшанічнай мукі, пару кавалкаў цукру, добра перамяшаць і тушыць пару гадзін на вуголлі, памешваючы, каб не падгарэла. Перад падаваннем усыпаць трохі тоўчанага перцу.

***Гаспадыня.***

**КУФЭРАК № 12**

*Адказны за падрыхтоўку матэрыялаў Міхась Казлоўскі.*

*У падрыхтоўцы "Куфэрка" прымалі ўдзел Таіса Трафімава, Алесь Капуцкі, Анатоль Акулік, Алесь Цадко.*

